# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 27 (1677) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК 3 ЛІПЕНЯ 1988 г. ЦАНА 20 зл.


## НАСТАЎНІЦКІ З'ЕЗД

Два дні, 27—29 мая 1988 г., у Бельскім доме настаўніка праходзіў з'езд настаўнікаў беларускай мовы. Прымалі ў ім удзел таксама інспектары асветы і выхавання, дырэктары школ з беларускай мовай навучання і група дзеячоў Галоўнага праўлення БГКТ. Гасцямі з'езда былі: інспектар Аддзела навукі, асветы і культуры ВК ПАРП мгр Зоф'я Петшыцка, дырэктар Аддзела ўдасканальвання настаўнікаў (ОДН) д-р Ежы Іока, візітатар Куратарыі асветы і выхавання мгр Стэфан Крэнтоўскі і кіраўнік Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта д-р габ. Аляксандр Баршчэўскі. Удзельнічаў у з'ездзе намеснік дэкана

(Працяг на стар. 4)



Удзельнікі з'езда настаўнікаў беларускай мовы.




## На скрыжаванні культур

### ІНТЭРВ'Ю З ПАЭТАСАЙ НАДЗЕЯЙ АРТЫМОВІЧ

**Ян Чыквін:** Твая, Надзея, паэзія ў сэнсе ўспрымання не належыць да лёгкіх. Яна не карыстаецца традыцыйным паэтычным кодам — вымагае падрыхтаванага чытача. Каб увайсці ў паэтычны свет паэта, каб яго зразумець, часта неабходна найперш высвятліць ягоную біяграфію. Нарадзілася ты ў вёсцы Аўгустова...



**Надзея Артымовіч:** Сапраўды, нарадзілася я ў вёсцы Аўгустова, хоць ніколі там не жыла. Тата пераехаў у Бельск-Падляскі ўжо ў 30-х гадах у пошуках працы. А маё там нараджэнне было выпадковае. Маё дзяцінства і першая маладосць прайшлі ў Бельску. Тут я скончыла беларускую пачатковую школу, была такая, дзе маёй настаўніцай была праз тры гады шаноўная Мар'я Пятроўна Вржэцёнка. Там жа скончыла і беларускі ліцэй, дырэктарам якога быў слаўны Яраслаў Касцыцэвіч, а беларускай мове вучыў Ільля Бэрнат. Гэта быў, здаецца, 1964 год. Спачатку думала паступіць на аддзяленне польскай філалогіі Варшаўскага універсітэта, але з матэрыяльных прычын прыйшлося год папрацаваць. Затым стала студэнткай русістыкі ў Настаўніцкай школе ў Беластоку, а пазней таксама беларускай філалогіі ў Варшаве. Ну і пасля гэтага знайшла працу, у сталіцы, перакладчыцы-дакументалісткі. Паколькі мая мама цяжка захварэла і ёй неабходна была мая апека, у красавіку 1979 г. я пакінула Варшаву і зноў апынулася ў Бельску. І хіба назаўсёды.

**Я.Ч.:** Наколькі вось гэтыя твае нягоды ўплылі на нараджэнне тваё як паэтэсы?

**Н.А.:** Гэта цяжка вызначыць. Першы верш напісала я ў лістападзе 1969 г. Была я тады ў Варшаве. За мной вэлюмам цягнулася настальгія за бацькаўшчынай, Бельскам. Аднойчы Юрка Плютовіч, паэт, які са мною сябраваў, выязджаў дахаты, да нашага таго ж белага Бельска, я праводзіла яго на вакзал і, вяртаючыся, калі засталася адна, пад уплывам думак, раптоўнага ўсведамлення, хто я і дзе я апынулася, напісала свой першы верш „Ой ляцелі гусі".

**Я.Ч.:** Але творчае станаўленне зацягвалася. Чаму?

**Н.А.:** У гадах 1969—1975 я была на этапе назірання свету, яго асэнсавання. Мне не хапала ведаў. Я шукала іх у літаратуры, асабліва ў прозе. Я ёю жыла і вельмі мала пісала. Таму першы зборнік маіх вершаў выйшаў толькі ў 1979 г.

**Я.Ч.:** А ў 1981 выйшаў наступны зборнік „Роздумы". Мінула ўжо сем гадоў. Калі паявіцца наступны?

**Н.А.:** Ёсць новыя вершы, якія склалі б кніжку, ды няма каму яе выдаць. У Таварыстве трэба чакаць чвэрць жыцця, а іншыя выдавецтвы проста не зацікаўлены. У перакладзе публікаваць — для паэзіі гэта не тое самае. То па-першае. А па-другое, я і не спяшаюся з выданнем новай паэтычнай кніжкі, таму што адчуваю патрэбу перадумання раней напісанага. Гэта можна было б назваць працэсам нейкага ўнутранага гамавання.

(Працяг на стар. 3)

# ГАЦЬКІ І НАВАКОЛЛЕ

**(Тапаграфія дарог, урочышч і гідраграфічнай сеткі)**




**Раенская грунтавая дарога,** з Гацькоў да Райска. За ўрочышчам **Крынічка** ідзе на круты пад'ём. Пылападобны суглінак. Парадкам эрадзіравана. Суцэльныя калдобіны, прамоіны ды ямы. На абочынах няма кювэтаў. Прыблізна на паўдарогі з Гацькоў да Райска ляжыць павалены каменны крыж 120-гадовай даўнасці.

**Крынічка,** вадацёк і ўрочышча. Ручай суняты ў трубы. Пераходзіць праз Раенскую дарогу. Мост пабудаваны з бетонных кругоў.

**Бетлах,** узгорак з дробназярністага пылаватага пяску. Колер — яснажоўты. Геамарфалагічная назва: кама, ледавіковай эпохі рыс.

**Гацькі,** вёска, колішняя назва — Гатькі. Жыхары сяла праваслаўныя, беларусы. Галоўная вуліца накіравана з усходу на захад. Брук з палявых каменняў. У 1987 г. навезена шчэбнем. Пакрыта асфальтавым бетонам. У Гацьках ёсць тры старыя каменныя крыжы. Адзін, з 1865 г., стаіць на вуліцы ў сярэдзіне сяла. Астатнія знаходзяцца на яго ўскраінах (з усходу і захаду) у гаспадарчых агароджах.

**Будка,** горка. Тапаграфічны аб'ект — кама, ледавіковай эпохі рыс. Дробназярністы пылаваты пясок. Колер яснажоўты. Тут былі шматлікія гнёзды берагавых ластавак. Па-варварску знішчаны раскопкай. У 1982 г. аўтар выканаў тапаграфічныя доследы. Аднак жа прызнаць узгорак аб'ектам аховы прыроды кампетэнтныя органы адмовіліся.




*Гацькі. Крыж з 1865 г.*

**Забудкі,** лугавыя ўгоддзі.

**Замак,** гарадзішча з V стагоддзя нашай эры. Аб'ект стаіць самастойна ў шырокай даліне. Сляды жыцця ўсходнеславянскіх качэўніцкіх плямён. Гісторыя нашай бытнасці. Горка складаецца з гліны. Плошча ля падножжа 0,50 га, вышыня 10,3 м, а даўжыня схілу 15 м. На жаль, раскопкі даследчыкаў нішчаць першасную форму гарадзішча. З паўночнага боку пакінуты вялікія ямы. Дэфармаваны схіл. Цяпер з паўднёвага боку раскапана частка схілу. Зямля асыпалася. Выкап нагадвае паглыбленую эрозіяй дарогу. Гэта трэба ўлічваць. У будучыні такая форма можа быць памылкова прынята як першабытны шлях на горку. У рэчаіснасці ўваход ёсць ад усходу. Выгляд — сцежкі. У цэнтры гарадзішча знойдзены абломкі керамічнай пасуды. Былі і косці жывёлы па ахвярапрынашэннях. Усё пад глінiстым грунтам. Выплаўлялі тут упрыгожанні з бронзы ў каменных формах. У VI стагоддзі н. эры ўсё на горцы згарэла. Жыхары адышлі. Вярнуліся ў XI-XII ст. ст. Вярхоўе „Замка“ папраўлі, падсыпалі грунтам. Гарадзішча зарасло травяністай раслінасцю. З паўночнага боку, на адхоне, растуць купінай маладыя бярозы, вярба. Вельмі цікава, што коні на горцы не пасвяцца. Уцякаюць, нават днём, чагосьці баяцца. Штосьці іх страшыць. На горцы „Бетлах“, што стаіць побач, коні нармальна пасвяцца.

**Паўлюковая гара,** серпападобны ўзгорак, што аблямоўвае „Замак“ з поўдня і захаду. Парослы сасной і бярозай.

**Сінякоўскае,** узвышша з пералескам. Большая частка тэрыторыі — поле.



*Гацькі. Курган з V ст., н.э.*

**Дубна,** за лугам, пры даліне. Тут былі калісьці дубы-волаты. Па-варварску знішчаны ненасытным чалавекам.

**Міжгор'е,** непрыдатная эрадзіраваная зямля. Дробназярністы пылаваты пясок яснажоўтага колеру. Шматлікія ямы па бульбе.

**Міжгорная грунтавая дарога,** непрафіляваная — кюветы адсутнічаюць. Глыбока эрадзіраваная, да 2-3 м ніжэй навакольнага грунту. Складаецца з пылаватага дробназярністага пяску жаўтаватага колеру. Праезная частка — пыліцца. Глыбокі слой рыхлай масы перашкаджае ў руху транспартных сродкаў. Дарога вядзе ў напрамку на гарадзішча, аднак жа, да яго не даходзіць, паварочвае на поўдзень. Па ёй можна даехаць да кургана, у лес і на поле.

**Заміжгор'е,** поле.

**Рудкова,** геамарфалагічна — цырк ледавіковага перыяду рыс. Трэцяе альпійскае абледзяненне Еўропы. Назва гэта паходзіць ад ракі Рыс, прытоку Дуная. Упадзіна, вельмі глыбокая — да 100 м. Сцены круглыя, дно плоскае. Схілы параслі густым лесам, з перавагай сасны. Расце тут бяроза, асіна, вярба. На дне чорная вольха з хмызняком стварае непраходную нетру. Уваход у цырк з паўднёва-ўсходняга боку. Сляды старадаўняй грунтавой дарогі, якая ідзе пры ўсходняй сценцы цырка. Вонкі стаяў насыпаны ўзгорак, па якім асталіся толькі сляды. Служыў ён за месца назірання і быў гэта так зв. вартаўнічы форт. У сцяне цырка выплаўлялі ліманітаву руду, выраблялі зброю, сродкі прымітыўнага земляробства і прылады хатняга ўжытку. Ад таго і паходзіць назва ўпадзіны.

**Шчэлапак,** поле.

**Падгасцінец,** поле.

**Пніска,** далінка.

**Вілкі,** поле.

**Баравая,** лес сасновы, бярозавы.

**Баравая грунтавая дарога,** прымітыўная, без кюветаў. Шлях да лесу **Сянкоўшчына** і на поле.

**Курганная грунтавая дарога,** самая простая, вядзе да кургана, які насыпаны ў V стагоддзі н.э. стэпавымі качэўнікамі — усходнімі плямёнамі.

**Смуга,** поле.

**Інж. Барыслаў Ф. Рудкоўскін**
**Малюнкі і карта аўтара**




*Гацькі. Гарадзішча „Замак“.*

# ФЭСТ У ПАШКОЎШЧЫНЕ




*Арганізатары і госці народнага фэсту ў Пашкоўшчыне (злева): Ян Добаш (чытае даклад аб 30-ай гадавіне „Белавежы"), Аляксандр Іваноўскі — сакратар ГП БГКТ, Анатоль Мартыновіч — гмінны інспектар асветы і грамадскі дзеяч, паэтэса Данута Бічэль-Загнетава, Мікалай Чыквін — старшыня арлянскага ГСу, Юрка Голуб — паэт з Гродна і Ян Зенюк — намеснік старшыні Прэзідыума ГП БГКТ.*

У нядзелю, 5 чэрвеня г.г. у Пашкоўшчыне (Арлянская гміна) адбыўся традыцыйны народны фэст, на гэты раз прысвечаны 30-годдзю літаратурнага аб'яднання „Белавежа".

Як заўжды, мясцовыя актывісты і дзеячы БГКТ на славу папрацавалі, каб гэты фэст прайшоў выдатна і павучальна.

Сярод гасцей былі выдатныя беларускія пісьменнікі з Гродна: Аляксей Карпюк, Данута Бічэль-Загнетава і Юрка Голуб. Нашых „белавежцаў" прадстаўляў Віктар Швед.

З дакладам аб 30-гадовым шляху літаратурнага аб'яднання „Белавежа" ў Польшчы выступіў дырэктар школы ў Пашкоўшчыне Ян Добаш. Аб надзённых справах Арлянскай гміны гаварыў старшыня ГРН у Орлі і вядомы БГКТоўскі дзеяч Анатоль Мартыновіч. Арлянская гміна, адзначыў ён, мае перш за ўсё сельскагаспадарчы характар. Тутэйшыя ўлады шмат пaклапаціліся, каб аблегчыць жыццё сваім грамадзянам. У першую чаргу іх увага была накіравана на пабудову дарог і на пастаўку вады цэнтралізаваным водаправодам.

Ад імя гасцей з Гродна выступіў пісьменнік Аляксей Карпюк. Ён, дарэчы, наш зямляк, нарадзіўся і правёў свае юнацкія гады ў вёсцы Страшава, што каля Гарадка. Тут таксама партызаніў, а пасля вайны пасяліўся ў Гродне, дзе бесперапенна жыве. Коратка, але змястоўна расказаў ён прысутным аб жыцці і справах сённяшняй Гродзеншчыны, ды і Беларусі наогул. На фоне іншых саюзных рэспублік справы ў БССР ладкуюцца зараз паспяхова. Сярэдні ўраджай, для прыкладу, 34-35 цэнтнераў з гектара, а па Гродзенскай вобласці ён набліжаецца да 40 цэнтнераў.



*Ад імя гасцей з Савецкай Беларусі выступіў вядомы пісьменнік Аляксей Карпюк.*

Паэты Данута Бічэль-Загнетава і Юрка Голуб прачыталі па некалькі сваіх вершаў ды абое яны ўсхвалявана адзначылі, што адчуваюць сябе на гэтым народным святкаванні так, быццам бы зусім не пакідалі сваіх родных дамоў.

І гэта вельмі ж спадабалася ўдзельнікам фэсту. З'ехаліся яны з многіх суседніх вёсак. ГСаўскі гандаль пастараўся абяспечыць прысутных рознымі халоднымі напіткамі, марожаным ды іншымі ласункамі.

Найбольш часу занялі выступленні калектываў мастацкай самадзейнасці. Канцэрт распачаў хор з Орлі. Пасля выступалі „Хлопцы-рыбалоўцы", „Дубіны" і дзеці са школы ў Пашкоўшчыне. Было цікава паслухаць, як дырэктар школы Ян Добаш іграе і спявае разам са сваёй вучаніцай. У гэтай школе мастацкая самадзейнасць пастаўлена на вельмі ж высокім узроўні.

Вельмі шчыра ўдзельнікі фэсту апладзіравалі маладым аматарам з калектыву „Дубіны". Артысты аб'явілі, што правадуць збор грошай на фонд пабудовы музея ў Гайнаўцы і дзве дзяўчынкі пайшлі ў народ, прапануючы пакупку музейных „цаглінак". Пасля Пятро Скепка, лідар „Дубіноў", сказаў мне, што, дзякуючы гэтаму, музейны фонд папоўніўся некалькімі тысячамі злотых. Дзякуй і за гэта!

Вечарам арганізатары фэсту наладзілі прыём, на які запрасілі не толькі замежных і беластоцкіх гасцей, але і ўсіх членаў мастацкіх калектываў.

**Віктар Рудчык**
**Фота аўтара**



*Гэта хор з Орлі. Але яшчэ выступалі калектывы з Рыбалаў, Дубіной і Пашкоўшчыны. Канцэрт цягнуўся некалькі гадзін.*




*На эстрадзе вучні і настаўнікі з Пашкоўшчыны.*



*Фэст у Пашкоўшчыне выклікаў вялікае зацікаўленне ў жыхароў навакольных вёсак.*

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## З ПАБЫЎКІ Ў ЧАРОМСЕ

Вялікая і прыгожая школа ў Чаромсе-станцыі. Шмат у ёй вучыцца дзяцей, маюць яны цікавыя і карысныя заняткі, любяць спорт, гадуюць кветкі на школьных клумбах і ў гародчыках, удзельнічаюць у розных спаборніцтвах.

Даўно ўжо ў гэтай школе існавалі традыцыі навучання беларускай мовы. Пазней, пры нагодзе розных рэформаў і змен, можа з недахопу настаўнікаў ці пад уплывам значнай групы прыезных нейкі час беларускай мовы ў школе не было.

І вось тры гады назад, калі ў школу прыйшлі дзеці з суседняй Чаромхі-вёскі, дзе беларуская мова навучаецца ад другога класа, настаўніца беларускай мовы Ніна Мусюк узяла іх пад сваю апеку. Цяпер гэта група пяці шасцікласнікаў. Таксама тады ж Ніна Мусюк пачала весці беларускую мову ў другім класе. Цяпер яны ўжо пяцікласнікі.

Маладая настаўніца, выпускніца беларускага ліцэя ў Гайнаўцы і Аддзялення беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта Данута Гудзейка ў мінулым годзе ўзяла чарговы другі клас і цяпер у трэцім кла-

(Працяг на стар. 10)



*Дзеці са школы ў Чаромсе сустрэлі „Зорку“ на высокім школьным ганку.*



*Шасцікласнікі: Анэта Юзвовіч (сталая карэспандэнтка „Зоркі“), Эва Салінская, Дарота Кердзялевіч, Ірына Алесюк і Янка Кузуб са сваёй настаўніцай Нінай Мусюк.*

Валянцін Лукша

## ЧОРНЫЯ БУСЛЫ

Казка

На Палессі багата
Вячыстых лясоў,
Шмат было тут
Заўсёды
Белюткіх буслоў.

З году ў год
На бярозе старой
Ля сяла
Бесклапотна
Бусліная пара жыла.
Людзі верылі шчыра:
Абыдуць напасці,
Бо спрадвеку буслы
Ім прыносілі шчасце.

Пэўна, так і было б,
Ды на досвітку росным
У сяле тым з'явіўся
Вандроўнік зайздросны.
Ён у вырай буслоў
Не пусціў на зіму,
Загадаў,
Каб прыносілі
Шчасце яму.
Працавалі буслы
Ад світання да змроку,
Працавалі і ў дождж,
Працавалі і ў спёку.
Не маглі ні на хвілю
Спакойна прысесці —
Адпачыць у гняздзе,
На балоце паесці.
Працавалі буслы,
Не гулялі і ў святы,
Аж пакуль
Не з'явіліся ў іх
Бусляняты.
І зайздроснік пачаў
Хваляванца часцей:
Клапаціліся дужа
Буслы пра дзяцей.
Ён, пахмурны, не спаў,
Паўтараў зноў і зноў:
„Аніякай карысці
Ад гэтых буслоў!
Як да справы вярнуць
Намагатых крылатых?
Вінаваты,
Вядома,
Ва ўсім
Бусляняты.“

Думу думаў зайздроснік
Тры дні
І тры ночы.
Потым лесвіцу ўзяў
Да бярозы пакрочыў.
Не адтаяла сэрца
Ў зайздросніка злога —
Буслянят павыкідваў
З гнязда
На дарогу.
Задаволены,
Прэч ад бярозы пайшоў.
Больш не будзе
Дарэмных турбот
У буслоў.
Паплыве, як паводка,
У хату багацце.
Будзе ў хаце багацце —
Будзе ў хаце і шчасце!

(Працяг на стар. 10)



Алена Мімрык

## АЛІНКА

Алінка — невялікая дзяўчынка, толькі другі клас скончыла. Вочы ў яе як васількі, валасы залацістыя, як лён. Жыве яна ў горадзе. А да бабулі прыехала на канікулы.

Бабуля сядзіць на ганку, скрабе бульбу. Алінка ёй дапамагае. Не зусім добра атрымліваецца, але бабуля хваліць.

Скрабе Алінка бульбу і расказвае бабулі сваю крыўду.

У магазіне цацак Алінцы спадабаўся плюшавы сабачка. Мама адгаворвала: „У цябе ўжо ёсць два сабачкі. Навошта яшчэ адзін?“ — „Такога няма. Купі, калі ласка, — прасіла Алінка. — Ён такі прыгожы, вялікі, як бабчын Тузік.“ Сабачка каштаваў дорага, і мама яго не купіла. Сказала, што не хапае грошай.

— А ты сама зарабі грошай, — параіла бабуля.

Назаўтра вясковыя дзяўчынкі разам з Алінкай пайшлі да брыгадзіра.

Дзядзька Васіль спачатку пасмяяўся з іхняй просьбы. А потым падумаў і сказаў:

— Добра. Заўтра выходзьце цыбулю палоць. Травою зарасла.

Алінка рана прачнулася. А восьмай гадзіне была ўжо ў канцы вёскі, дзе дамовілася сустрэцца з дзяўчынкамі. Прыйшлі ўсе, ніхто не заспаў.

На полі, дзе расла цыбуля, кожная дзяўчынка заняла радок.

Спрытна пачалі працаваць Света, Галя і Вера. А ў Алінкі рукі як чужыя: адстае ад дзяўчынак. Бачыць, тыя ўжо далёка наперадзе.

— Пачакайце мяне! — гукае Алінка.

— Даганяй! — заахвочваюць сяброўкі.

„Як цяжка зарабляць грошы“, — думае Алінка. Але не здаецца: акуратна вырывае пустазелле, ніводнай травінкі не пакідае. Разагнецца, гляне на чыстыя радкі сяброўак і зноў завіхаецца. Дайшла да палавіны радка, а сяброўкі ўжо ёй насустрач полюць.

— Пара абедаць, — кажа Света, падышоўшы да Алінкі. — Хадземце дадому.

І дзяўчынкі, весела гамонячы, ідуць на абед. У Алінкі ные спіна, баляць рукі. Але яна не прызнаецца. Сорамна. Сама ж угаварыла сяброўак пайсці працаваць.

— Ну як, унучка, шмат прапалола? — пытае бабуля, сустрэўшы Алінку ў двары. — Не замарылася?

— Ой, бабуля, давай хутчэй есці.

Паабедала Алінка, прылягла адпачыць. І заснула. Не чула, як прыходзілі сяброўкі. Праспала да самага вечара. На поле больш не пайшла: балела спіна.

А Света, Галя і Вера палолі цыбулю цэлы тыдзень. І за сябе, і за Алінку. Калі атрымалі зарплату, хацелі Алінцы грошы даць. Але яна адмовілася:

— Гэта несумленна. Я ж толькі паўдня працавала. Не вазьму!

Тады сяброўкі купілі цукерак, пячэння і паклікалі Алінку ў госці. Добрыя яны, не пакрыўдзіліся на гарадскую дзяўчынку.

Праз некалькі дзён прыехала мама, і Алінка ёй сказала:

— Цяпер я ведаю, мамачка, як цяжка зарабляць грошы. Не трэба мне плюшавага сабачкі, без яго абыдуся.

Яна ўзяла кубак з малаком і пайшла да будкі — частаваць бабчынага Тузіка.

## З ПАБЫЎКІ Ў ЧАРОМСЕ

(Працяг са стар. 9)

се беларускай мове вучылася 11 чалавек.

Вялікая група вучняў чацвертага класа вучыцца беларускай мове пад пільным вокам настаўніка Аляксандра Лаўрыновіча. Такім чынам, вучні са школы ў Чаромсе-станцыі ўключыліся ў апошнія гады ў сям'ю школ, дзе дзеці масава вывучаюць родную мову.

Цяпер ужо дзеці з Чаромхі ўдзельнічаюць у конкурсах беларускай песні і дэкламацыі. Напрыклад, сёлетні конкурс беларускай песні ў школе стаў святам беларускай песні ў вёсцы Чаромха, дзе адбываўся гэты конкурс. Выступіў тады ж і жаночы фальклорны хор, які існуе ў вёсцы.

Цяпер канікулы. Маю надзею, што дзеці, адпачываючы, не забыліся дагледзаць школьныя кветкі, клумбы. Часта заглядаюць на школьны падворак. Маю таксама надзею, што адгукнуцца і напішуць у „Зорку", як праводзяць свае канікулы.

Усім дзецям „Зорка" жадае добрага адпачынку і ахвоты вучыцца ў новым навучальным годзе.

**Яніна Чэрнякевіч**



*Вучні 4 класа, выхаванцы настаўніка Аляксандра Лаўрыновіча.*

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

* * *

— Уяўляеце, — расказвае суседка суседцы, — учора мой муж зваліўся з зэдліка і абодва паламалі ногі.

* * *

— Выхоўваць блізнят — вельмі цяжка, — спачувае суседка.

— Не, не так цяжка. Калі адзін крычыць, дык другога не чуваць, — тлумачыць маці дзяцей.

* * *

Капаючы школьны агарод, Уладзік знайшоў манету.

— Проша пані, што рабіць? — пытаецца ён у настаўніцы.

— Капаць далей, — адказвае яна.

* * *

Міша і Пеця спрачаюцца, хто з іх большы.

— Ты мне не таварыш, — кажа Пеця, — я за цябе значна большы. Гуляць з табой не буду.

Пачуў гэта тата ды кажа:

— Не забывайцеся, што яшчэ я тут ёсць.

* * *

— Хутка ўжо шостая гадзіна вечара, а ў цябе ўрокі не зроблены, — папракае маці сына.

— Каб была шостая гадзіна вечара, я ўжо меў бы ўрокі зробленыя, — адказвае сын.

* * *

Мамы няма дома. Тата купае сына.

— Сёння мне значна больш падабаецца купацца, чым з мамай, — кажа сын.

— Чаму? — цешыцца тата.

— Бо з табою можна купацца ў штанах і чаравіках.




*Малюнак для „Зоркі" пяцігадовага Эрніка Валкавыцкага з Беластока.*

(Працяг са стар. 9)

### ЧОРНЫЯ БУСЛЫ

**На балоце буслы**
**Затрымаліся дзесьці,**
**Прыляцелі**
**І ўбачылі:**
**Мёртвыя дзеці.**
**Апусцілі галовы,**
**Маўкліва сядзелі,**
**Ад вялікага гора**
**За ноч**
**Пачарнелі.**

**А зайздроснікі ранкам**
**Чакала загуба,**
**Бо прынеслі буслы**
**Па вугольчыку ў дзюбах.**
**Шуганула над хатаю**
**Полымя ў неба.**
**І ніхто не тушыў:**
**Так зайздросніку й трэба.**

**У дрымучую пушчу**
**Зляцела далей**
**Пара чорных буслоў —**
**Ад бяды,**
**Ад людзей...**

**Кажуць, побач з людзьмі**
**Птушкі зноў бы жылі,**
**Каб не стала**
**Нядобрых людзей**
**На зямлі.**

## ПАЗНАЁМІМСЯ

Гражына Галавачык, вуч. 6 класа, в. Тыневічы Вялікія 35, 17-208 Кленікі, Беластоцкае ваяводства.

— ★ —

СССР, 163019, г. Архангельск — 19, ул. Приморская, д. 22а кв. 9. Сняткову Коле. 6 клас.

— ★ —

БССР, 220047, г. Мінск, вул. Герасіменкі, дом 11, кв. 56. Дзмітрыевай Жане. 4 клас.

— ★ —

УССР, 283615, Тернопольская обл., Черенковский район, с. Кольындяны. Лиде Рыбчук и Оле Козымчук. 6 клас.

— ★ —

БССР, 222310, Мінская вобл., г. Маладзечна, вул. Калініна, д. 2, кв. 104. Смелай Наташы. 11 год.

— ★ —

БССР, 220032, г. Мінск, вул. Макаёнка, 14. Школаінтэрнат, 6 „Б" клас. Шпунт Наташы і Кротавай Марыне.

— ★ —

СССР, 163019, г. Архангельск — 19, ул. Декабристов, 6а, кв. 4. Бадулиной Оксане. 7 клас.

— ★ —

СССР, 606200, г. Кстово, Горьковской обл., II микрорайон. 2-72. Зеленовой Лене. 6 клас.

— ★ —

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Р. Люксембург, 116, кв. 178. Наташа Мініч. 7 клас.

— ★ —

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Р. Люксембург, 116, кв. 80. Вольга Мацюшэнка. 7 клас.

— ★ —

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Р. Люксембург, 116, кв. 181. Таня Свірэпа. 7 клас.

— ★ —

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 63, кв. 44. Стась Лапцэвіч. 6 клас.

— ★ —

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Р. Люксембург, 82, кв. 88. Аляксей Кузняцоў. 6 клас.

— ★ —

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Р. Люксембург, 168, к. 2, кв. 60. Ірына Астапенка. 6 клас.

## ПАЗНАЕМ ПРЫРОДУ

### КАМЕННЫЯ ФОРТЫ




Часта сустракаюцца ў прыродзе вялікія і малыя камені. Яны ствараюць вакол сябе нароўнасці і міжкаменныя пустоты. Называецца гэта фортамі аховы прыроды. Вялізныя валуны прыйшлі да нас са Скандынавіі. Даўно, у ледавіковы перыяд. Яны падлягаюць ахове як геалагічныя помнікі прыроды. Малыя камені, што сустракаюцца на палях ды пры дарогах, менш уплываюць на прыгажосць краявіду. Усё ж і яны маюць значэнне ў ахове прыроды.

Ля чыгуначнага моста на рацэ Белай у ваколіцы Бельска нагрувашчана шмат вялікіх каменняў (мал.). Пад каменнямі ды ў міжкаменных пустотах — фортах жывуць вужы, змеі, насякомыя. У каменных фортах жывуць такія маленькія насякомыя — жужалі, якія з'ядаюць шкоднікаў — вусеняў. Вельмі гэта карыснае насякомае. Вось чаму нельга нішчыць гэтыя іх сховішчы.

Ва ўрочышчы Бахматы, што каля Дубіч-Царкоўных, пад каменнямі знаходзіцца сховішча жаб. Ніякі бусел не мае тут да іх доступу.

**Інж. Барыслаў Рудкоўскін**
**Малюнак аўтара**

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А




Хто з дзяцей у які клас ходзіць.



„НІВА" 3.VII.1988 г. Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1 „Зорка"

**Эдуард Валасевіч**

## ШПАЧЫНЫ КАНФУЗ

### Байка

Шпака прырода ані ў чым не абышла:
I розум адпаведны, і душу дала,
I крылы для палёту,
I голас меладычны,
I слых
Музычны.
Ён лёгка перайшоў любыя ноты,
Якія чуў ад спевакоў другіх, —
Сінічкі,
Салаўя,
Плісічкі,
Вароны, дзятла, сойкі, вераб'я...
Не мелася, напэўна, у лесе птушкі
гэткай,
Мелодыю якой не мог бы ён схапіць.
I вось аб здольнасці шпачынай рэдкай
Па лесе слава загула
I нават зацікавіла Арла.
— А ну-тка, пакажы сваё ты ўменне.
А я паслухаю цябе ў цяньку, —
Прапанаваў Арол Шпаку.
I заспяваў тут Шпак з натхненнем:
То шчоўкнуў Салаўём,
То вераб'ём чылікаў,
То глуха вуркатаў, то, як смычок
пілікаў,
То Сокалам крычаў, то вухкаў Пугачом...
— Выдатна!
Ты спевы птушак пераняў
дакладна.
А зараз заспявай Шпаком!
I дзіва:
Не толькі варыяцыі і пералівы, —
Шпак нават і мелодыю забыў...
Тады Арол загаварыў:
— Запомні, зарубі сабе на дзюбе —
Хоць сто мелодый іншых знай,
А песняй роднаю, мой любы,
Не пагарджай!




— Гэй, табе сыр патрэбен?

# НІЎКА




Для свайго ўтульнага гняздзечка.

## АЗБУКА ЖЫЦЦЯ

Гаварыць лепей тады, калі ёсць што сказаць.

*

Маўчанне — гэта таксама ўзаемаадносіны.

*

Маланка — прыгажосць, якую не ўхопіш: рукі апячэ.

**М. Мінчанка**

## УСМЕШКІ ФІЛОСАФАЎ

Арыстоцеля запыталіся: — Чым ты адрозніваешся ад большасці людзей?

— Яны жывуць для таго, каб есці, а я ем для таго, каб жыць — адказаў філосаф.

*

Калі фракійскі цар Лісімах прыгразіў філосафу Феадору смерцю, апошні ўсклікнуў:

— Вялікая важнасць: любая ядавітая муха зробіць гэта.

## ...ЦЕШУСЯ

— Ведаеш, Антон, колькі разоў сустракаю тваю жонку, дык заўсёды цешуся.

— А чаго ты цешышся?

— Што яна не мая жонка.

## ПАВЫБІВАЛІ

— Кастусь, чаго ты за морду трымаешся?

— Зубы баляць.

— Ну, дык ідзі да лекара.

— Няма ўжо з чым, бо ўсе павыбівалі.

— Дзе будзем праводзіць лета?

— Як заўсёды — у буфеце?



За хабар яго абвінавацілі, за хабар і апраўдалі.

## ПАНЯ АНЯ

Прыехала ў вёску
З горада дачуся
Спытала па-польску:
— Jak się masz, mamusiu?
Вось якая паня
З дзяўчыны вясковай!
А на гэта Аня:
— Nie chcę waszej mowy.
— Дык чаго ж ты хочаш,
Скажы, калі ласка?
Анечка бармоча:
— Chcę wiejskiej kiełbaski.

**Віктар Швед**

## СТРАСЯНУЦЬ

— Чаму ты хворага мужа страсянула?

— Таму, што на ўпакоўцы лякарства напісана, перад ужываннем страсянуць.



Летні дожджык.

## ТОЛЬКІ АСЁЛ

Вася з бацькам наведалі заапарк.

— Тата, што гэта за звер?

— Гэта асёл, — адказвае бацька.

— А гэта, што каля яго стаіць?

— Як бы табе сказаць... гэта жонка асла.

— Тата — то аслы жэняцца?

— Толькі аслы, сынок. Толькі.

## ПАВЕРЫЦЬ

— Мамачка! Я не пайду замуж за Пятрука. Ён такі, што нават у пекла не верыць.

— Дык што, дачанька, нічога — як цябе возьме, дык паверыць.

## ПАРАІЛА

Ён: — Што мне зрабіць, каб вы былі маёю?

Яна: — Замкнуць на ключ дзверы.

Сэрцаед.

## ТРЭЦЯЯ ЎЗЯЛА

— Што купіў, кум Іван?

— Паліто. А ты, Сцяпане?

— Боты.

— Замочым?

— Па-а-йшлі...

Выпілі па першай шклянцы.

— Не бярэ, кум Іван, трасца табе ў бок.

— Давай па другой, кум Сцяпан!

Кульнулі па другой.

— I другая не бярэ, Сцяпане. Давай па трэцяй...

— Уставай, кум Іван, трэцяя ўзяла.

— Што ўзяла?

— Тваё паліто, а мае боты.

## ЯК СТАЛА ЖОНКАЮ

— Помніш, ты ў мінулым годзе часта прыходзіў у парк з адной дзяўчынай?

— А, гэта з Ірынай...

— А чаму цяпер адзін?

— Дык жа яна стала маёй жонкаю.



Чэмпіён.

**Людзі знаюць, людзі кажуць**

## АЗДАРАЎЛЕНЧАЯ ІНВАЛІДНАСЦЬ

Часам у нас людзі хварэюць, ходзяць да лекараў, наракаюць на здароўе і намагаюцца атрымаць дакументы аб сталай непрацаздольнасці. А потым? Вось дзіва! Разам з атрыманнем дакументаў вяртаецца ў іх здароўе. Ды яны не спяшаюцца вяртацца да ранейшай працы. Ездзяць у загранічныя экскурсіі, выязджаюць працаваць за граніцу, гандлююць на рынку.

— Адна мая знаёмая, саракагадовая жанчына, — расказвалі мне, — доўга старалася атрымаць дакументы інваліднасці першай групы. А калі атрымала, яны падзейнічалі на яе як незвычайнае аздараўленчае лякарства. Яна стала вясёлай, перастала моршчыцца і горбіцца. З ёю цяпер не сыйдзешся і не справішся ў подбегу да аўтобуса.

— А вось мая суседка, — гаварыў наш рэдакцыйны знаёмы, — таксама доўга змагалася за дакументы інваліднасці. Але адначасова яна ўладжвала і справы, звязаныя з выездам у ЗША. Як толькі медыцынская камісія прызнала ёй інваліднасць, яна адразу паздаравела. Асабіста атрымала толькі першую сваю пенсію. Наступныя атрымоўваў ужо яе муж, бо жанчына была ўжо ў Амерыцы, цяжка працавала і была здаровая. **(мс)**

**I ў дурняў растуць зубы мудрасці, але гэта не робіць іх разумнейшымі.**